# Голас Радзімы

№ 38 (2024)
17 верасня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Баранавічы. Гэта назва добра знаёма многім нашым землякам. Да 1939 года — невялікі гарадок у палескай глухамані былой Заходняй Беларусі. Сёння — адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў Савецкай Беларусі. Баранавіцкі бавоўняны камбінат — прадпрыемства, прадукцыя якога вядома не толькі ў Савецкім Саюзе, але і за яго межамі. Ёсць тут буйныя швейная, трыкатажная, абутковая фабрыкі, добра развіта і харчовая прамысловасць. Акрамя таго, горад — важны цэнтр машынабудавання.

НА ЗДЫМКУ: Баранавічы. Плошча імя У. І. Леніна.

Фота С. КРЫЦКАГА.

ДА 70-ГОДДЗЯ КАСТРЫЧНІКА

## ДАРОГАМІ МІРУ

Міжнародная эстафета па мясцінах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы народаў СССР, Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Румыніі і Чэхаславакіі, прысвечаная 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, 6 верасня прайшла праз горад-герой Мінск.

Старт эстафеты быў дадзены 2 верасня ў Ленінградзе — калысцы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яе сімвалам стаў факел міру, які запалілі ад трох агнёў: топкі «Аўроры», мартэнаў Кіраўскага завода, мемарыяла Піскароўскіх могілак. А адлік кіламетраў доўгага шляху па дарогах брацкіх сацыялістычных краін пачаўся з Марсава поля, дзе пахаваны астанкі барацьбітоў рэвалюцыі.

Праз Талін, Рыгу, іншыя гарады нашай краіны эстафета прыбыла ў Мінск. Яе сустрэлі на плошчы Калініна, і караван міру рушыў па вуліцах да абеліска «Мінск — горад-герой». Гэта было яркае відовішча! Надзейна прыкрыты шахцёрскай лямпай факел перадаваўся з рук у рукі. Яго неслі лепшыя спартсмены рэспублікі, якіх суправаджалі дзесяткі бегуноў. Тысячы мінчан цёпла віталі спартсменаў.

Спорт, дружба, мір — гэтыя словы чацей за ўсё гучалі на масавым мітынгу ля абеліска. На ім выступілі намеснік старшыні Мінгарвыканкома П. Кішкурна, ветэран партыі і Вялікай Айчыннай вайны Н. Ляпін, алімпійскія чэмпіёны А. Мядзведзь і А. Крылоў. Тут жа ўдзельнікам міжнароднай эстафеты перадалі лістоўкі з заклікам да моладзі планеты абараніць мір, зрабіць усё, каб чалавецтву ніколі не пагражала смяротнае полымя вайны. Пад ім паставілі свае подпісы тыя, хто ўдзельнічаў у стартах «Тыдня здароўя, спорту, турызму», якія папярэднічаў эстафеце.

Перад прысутнымі ля абеліска выступілі Дзяржаўны народны хор БССР, ансамбль «Равеснік», іншыя ўдзельнікі мастацка - спартыўнага прадстаўлення.

Ад абеліска гораду-герою эстафета прадоўжыла свой маршрут да плошчы імя У. І. Леніна. Кветкі да помніка Уладзіміру Ільічу яны неслі разам: пасівелыя ветэраны, моцныя стройныя спартсмены, школьнікі. Такое яднанне сімвалічнае.

Затым караван міру рушыў у далёкую дарогу — на Варшаву, Берлін... Канцавым пунктам у першай частцы шэсця міжнароднай эстафеты па савецкай зямлі стаў Брэст.

НА МІЖНАРОДНЫМ ФОРУМЕ

## ВЫСТУПЛЕННЕ КІРАЎНІКА ДЭЛЕГАЦЫІ БССР

У Вене на міжрэгіянальнай нарадзе па палітыцы і праграмах сацыяльнага развіцця выступіў кіраўнік дэлегацыі Беларускай ССР, намеснік міністра сацыяльнага забеспячэння БССР Г. Бяспалаў.

Значэнне сёлетняга форуму, сказаў ён, заключаецца ў тым, што ён нібы падводзіць вынік работы цэлага шэрагу рэгіянальных канферэнцый і нарад, якія прайшлі ў апошнія гады, і дазваляе абмяняцца нацыянальным вопытам вырашэння сацыяльных пытанняў.

Сацыяльная палітыка ў Беларускай ССР накіравана на далейшае павышэнне ўзроўню народнага дабрабыту, удасканаленне сацыялістычнага ладу жыцця, паслядоўнае захаванне прынцыпу сацыяльнай справядлівасці: забеспячэнасць работай, даступнасць адукацыі, культуры, медыцынскага абслугоўвання і жылля, клопат аб старых, мацярынстве і дзяцінстве.

БЕЛАРУСЬ І ААН

## СЕМІНАР У МІНСКУ

У Мінску з 8 па 15 верасня праходзіў міжрэгіянальны семінар ААН на тэму «Павышэнне надзейнасці і эфектыўнасці вытворчасці, перадачы і размеркавання электрычнай энергіі ў краінах, што сталі на шлях развіцця». У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі 14 маладых незалежных і рада заходніх дзяржаў, а таксама наглядальнікі ад некаторых міжнародных арганізацый. Перад удзельнікамі семінара выступілі з лекцыямі беларускія спецыялісты, якія расказалі аб вопыце рэспублікі ў вырашэнні праблем энергетыкі. Зарубежныя госці азнаёміліся з Лукомльскай ДРЭС і прадпрыемствамі ў Віцебску, наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», славутыя мясціны Мінска і Віцебска.

ПРАФСАЮЗНЫЯ КАНТАКТЫ

## ГОСЦІ З МАРОКА

З дзейнасцю беларускіх прафсаюзаў ва ўмовах перабудовы, іх удзелам у вырашэнні пытанняў сацыяльнага і эканамічнага развіцця рэспублікі азнаёмілася дэлегацыя кіраўніцтва Мараканскага саюза працы (МСП) на чале з генеральным сакратаром прафцэнтра Махджубам Бен Седзікам. Яна знаходзілася ў Савецкім Саюзе па запрашэнню ВЦСПС.

Госці мелі сяброўскую гутарку ў Беларускім рэспубліканскім савеце прафсаюзаў. Яны наведалі саўгас «Мінская родніннaя фабрыка» і мотавелазавод, агледзелі экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Дзяржаўнага музея БССР, зрабілі паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь».

СЯБРОЎСКІЯ СУВЯЗІ

## ЗНАЁМСТВА З МІНШЧЫНАЙ

Мінскую вобласць наведала дэлегацыя з Польскай Народнай Рэспублікі на чале з сакратарам Плоцкага ваяводскага камітэта ПАРП Адамам Бартосякам. Польскія таварышы пабывалі ў працоўных калектывах Мінскага раёна. Адбылася гутарка ў Мінскім райкоме партыі. Члены дэлегацыі агледзелі жывёлагадоўчы комплекс саўгаса «Бальшавік», азнаёміліся з работай цяплічнага камбіната і Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і агародніцтва.

Хлебам-соллю, кветкамі сустракалі членаў дэлегацыі Плоцкага ваяводства ў калгасе «Новы быт». Тут адбылася сяброўская гутарка гасцей з гаспадарамі пра развіццё калгаса, пра асабістым працоўны ўдзел у вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Члены дэлегацыі азнаёміліся з умовамі працы, быту і адпачынку сельскіх працаўнікоў, наведалі гандлёвы цэнтр, дзіцячы сад, пабывалі ў жылым доме, прысутнічалі на канцэрце народнага фальклорнага ансамбля «Крупіцкія музыкі».

З ВІЗІТАМ ДРУЖБЫ



**У Мінск прыбыў турыстычны поезд дружбы Патсдамскай акругі ГДР. На чыгуначным вакзале гасцей цёпла вітала дэлегацыя прадстаўнікоў сталіцы Беларусі. Турыстаў з братняй краіны чакаюць шматлікія сустрэчы ў працоўных калектывах, знаёмства з сацыяльным развіццём горада і вобласці, вялікая культурная праграма.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы на чыгуначным вакзале.**

ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКЦЫЯ

## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АФГАНІСТАНА

Прынясуць радасць дзецям Афганістана падарункі, якія падрыхтавалі для іх школьнікі і моладзь Светлагорска. Каля 50 пасылак з пісьмовымі прыладамі, спартыўнымі касцюмамі, гульнямі адправілі яны далёкім сябрам. Гэта вынік аперацыі «Таварыш», аб'яўленай светлагорскімі камсамольцамі. Сярод тых, хто актыўна ў ёй удзельнічаў, школьнікі, камсамольцы, моладзь прадпрыемстваў і ўстаноў.

НОВЫЯ ВЫРАБЫ

## ПАШЫЛІ ХІМІКІ КАСЦЮМ

Прыклад шырокага прымянення лаўсану прадэманстравалі сваім спажыўцам самі хімікі. З тканін на яго аснове ў магілёўскім аб'яднанні «Хімвалакно» асвоілі выпуск модных мужчынскіх, жаночых і падлеткавых касцюмаў. Яны зручныя і практычныя і на рабоце, і дома, у дарозе, на адпачынку, для занятка ў спортам. Дзякуючы сучаснаму пакрою, камбінаванню таноў, гэтыя вырабы нічым не ўступаюць імпартным, але каштуюць амаль утрая танней. Відавочна, таму першыя партыі навінак разышліся літаральна «з калёс». А ў цэху тавараў народнага ўжытку, дзе яны пашыты, шукаюць спосаб павялічыць выпуск папулярных вырабаў.

Падобныя цэхі дзейнічаюць і пры іншых вытворчасцях аб'яднання, перапрацоўваючы ў добры тавар і прадукцыю асноўных цэхаў, і адходы. З сінтэтычных нітак і валакна хімікі на месцы вырабляюць трыкатаж, гардзіны, пакрывалы, нятканыя матэрыялы для падлогі — усяго звыш ста розных вырабаў.

Сёлета іх намечана выпусціць больш чым на дваццаць мільёнаў рублёў.

КУЛЬТУРНЫЯ НАВІНЫ

## У ВЁСКУ, НА ВЕРНІСАЖ

Карцінная галерэя адкрылася ў Доме культуры эксперыментальнай базы імя Шмырова на Віцебшчыне. Па ініцыятыве аддзела культуры Віцебскага райвыканкома і абласной арганізацыі Саюза мастакоў БССР у вобласці прайшоў конкурс твораў жывапісу, прысвечаны 70-годдзю Кастрычніка. Лепшыя карціны і склалі экспазіцыю новай галерэі. Асаблівай увагай наведвальнікаў галерэі карыстаюцца палотны старэйшага мастака Віцебшчыны П. Явіча «Партрэт Міная Шмырова» і «Дзеці Міная».

ТЭЛЕФАНІЗАЦЫЯ

## ПЯТАЯ АТС

У Брэсце здадзена ў эксплуатацыю новая аўтаматычная тэлефонная станцыя на 10 тысяч нумароў. Цяпер кожная трэцяя сям'я мае свой апарат.

Гэта пятая ў горадзе АТС. У наступным годзе будзе ўведзена ў строй першая чарга яшчэ адной такой жа станцыі. А ўсяго за пяцігодку абласная сетка пашырыцца на 64 тысячы нумароў. Ставіцца мэта максімальна тэлефанізаваць да 2000-га года не толькі горад, але і вёску, якая пакуль яшчэ адстае па колькасці тэлефонных паслуг на сям'ю.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

САЛІГОРСК. Па душы прыйшлася на аптовым кірмашы ў Маскве прадукцыя Салігорскай фабрыкі бялізнавага трыкатажу. Дагаворы на пастаўку вырабаў прадпрыемства заключылі 250 гандлёвых баз з многіх рэспублік краіны. Прыгожыя, модная пакрою сукенкі і касцюмы, выробленыя на фабрыцы, асабліва ахвотна набывае моладзь.

МІНСК. Штогод калектыў Мінскага завода халадзільнікаў пералічвае ў Савецкі фонд міру немалыя сродкі. Толькі сёлета за першае паўгоддзе працаўнікі ўнеслі больш за 15 тысяч рублёў.

На прадпрыемстве працуе нямала ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Яны добра ведаюць цану міру і таму выступаюць ініцыятарамі па збору грошай у Фонд міру.

ВАЎКАВЫСК. Без запасу дроў абыдуцца сёлетняй зімой жыхары вёскі Студзінец Ваўкавыскага раёна. Тут закончана будаўніцтва падземнага газапровода. Гэта чацвёртая вёска ў калгасе «Савецкая Беларусь», дзе будзе выкарыстоўвацца блакітнае паліва. Свой газапровод з'явіцца неўзабаве і ў суседніх гаспадарках — калгасе «Бальшавік» і саўгасе «Зара».

Толькі ў першым паўгоддзі на бытавыя патрэбы насельніцтва раёна выкарыстана 150 тысяч кубічных метраў таннага прыроднага паліва.

СМІЛАВІЧЫ. У Беларускім завочным сельскагаспадарчым тэхнікуме, што знаходзіцца ў гарадскім пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці, адбыўся чарговы выпуск спецыялістаў. Дыпломы аграномаў і заатэхнікаў абаранілі 300 працаўнікоў сельскай гаспадаркі Беларусі і суседніх рэспублік.

ПІНСК. Сельская дзятва зможа далучыцца да свету прыгожага на аддзяленнях музыкі, харэаграфіі, у выяўленчай студыі школы мастацтваў, што адкрылася ў саўгасе «Парахонскі». Яе з'яўленне — вынік вялікай работы па вырашэнню сацыяльных праблем у вёсцы.

ЛЮДЗІ ПРАЦЫ



**Анатоль Волкаў працуе механізатарам у калгасе імя Свярдлова Горацкага раёна ўжо 22 гады. За сваю сумленную працу мае і пашану землякоў, і ўрадавыя ўзнагароды — два ордэны Працоўнай Славы. На здымку вы бачыце А. ВОЛКАВА з яго сям'ёй—жонкай, якая працуе даяркай, сынам Дзімам і дачкой Ірынай.**

## *СУСТРЭЧА З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# УСІМ ДОБРЫМ СПРАВАМ—СПАДАРОЖНЫ ВЕЦЕР

**Паважаныя чытачы, з вашых пісьмаў мы ведам, якую пільную ўвагу праяўляеце вы да тых працэсаў, што адбываюцца зараз на Радзіме і называюцца адным з самых папулярных цяпер у свеце слоў — перабудова. Сёння вы пазнаёміцеся з чалавекам, які мае багаты жыццёвы вопыт, займае адказную пасаду і можа гаварыць пра перабудову асабліва дасведчана і кампетэнтна. Гэта Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, першы сакратар Гродзенскага абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі Леанід КЛЯЦКОЎ. Спадзяёмся, што яго адказы на нашы пытанні дапамогуць вам лепш уявіць, чым зараз жыве Савецкая краіна і, у прыватнасці, Гродзеншчына, адкуль у даўнія часы з былой Заходняй Беларусі нямала людзей выехала за мяжу ў пошуках работы і дастатку.**



*— Кажуць, калі чалавек не ведае, да якога берага плысці, то не будзе яму і спадарожнага ветру. Леанід Герасімавіч, мне здаецца, што ў вашы жыццёвыя парусы часцей дзьмуў спадарожны вецер. Калі вы ўпершыню задумаліся пра «свой бераг»? Калі і, галоўнае, чаму вы сталі камуністам?*

— Для мяне, як і для пераважнай большасці маіх равеснікаў, усё вызначылася адразу. Гэтаму спрыяла ўсё наша жыццё ў 20-х—30-х гадах. Краіна будавалася, а разам з ёй «будаваліся» і мы, савецкая моладзь. Што казаць, былі адшчапенцы. Але не яны вызначалі агульную атмасферу ў грамадстве.

У Камуністычную партыю я ўступіў у саракавым годзе, практычна, напярэдадні Вялікай Айчыннай. У краіне быў тады велізарны патрыятычны ўздым: адчувалася, што набліжаецца вайна — ужо была Іспанія. І моладзь наша спявала: «Калі заўтра вайна, калі заўтра ў паход...» Перад пагрозай для ўсёй краіны ў народа вельмі абвастраецца пачуццё абавязку, уласнай адказнасці за лёс Радзімы. Вось з такімі думкамі і я стаў членам нашай партыі, бо менавіта яна ва ўсе гады была тым галоўным ядром, вакол якога ядналіся савецкія людзі.

Працаваў я тады ў камсамоле, вучыўся. Але давучвацца ўжо давялося пасля вайны.

*— Вы павінны таксама добра памятаць і вызваленне Заходняй Беларусі, яе ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю...*

— Так, як вядома, па дагавору ў 1921 годзе да буржуазнай Польшчы адышлі заходнія раёны Украіны, Беларусі і так званы Віленскі край.

Усе мы разумелі, што такі падзел — несправядлівасць. І ў 1939-м яна была ліквідавана. Менавіта так успрымаўся паход Чырвонай Арміі. Акупацыйны рэжым пакінуў заходнія раёны ў страшэннай беднасці, сапраўднай галечы. Таму з усходу рэспублікі на захад было перададзена многа тэхнікі, іншых матэрыяльных сродкаў, накіравана шмат кваліфікаваных спецыялістаў...

*— З Гродзеншчыны, наогул з Заходняй Беларусі да 1939 года выехала ў эміграцыю шмат людзей, якія былі вымушаны пакідаць свой кут і шукаць прытулак далёка ад роднай хаты, бо ў той хаце была толькі беспрасветная галеча.*

— Атмасфера ў заходніх раёнах была крайне цяжкая. Не толькі голад і беднасць гналі людзей ад бацькоўскага парога. Існаваў таксама страшэнны палітычны, нацыянальны, рэлігійны ўціск. Беларуса, напрыклад, тут паўсюдна сілай прымушалі пераходзіць у каталіцтва. Але і пасля таго, як ён станавіўся католікам, не было роўнасці паміж ім і палякам.

Я ў тыя гады працаваў на Віцебшчыне. Заходнія раёны ўпершыню ўбачыў у 1944-м, калі ў складзе дзеючай арміі прымаў удзел у вызваленні Беларусі ад гітлераўцаў. Ведаеце, калі перайшлі «старую» граніцу, як адрэзала: зусім іншая зямля, іншыя вёскі. Гэта кідалася ў вочы нават на фоне тагачаснага ўсеагульнага жахлівага разбурэння. І тады было відаць: адно — Міншчына, Капыльшчына, Дзяржынск, і зусім іншае — нясвіжскія, стаўбцоўскія паселішчы. Ад трыццаць дзевятага да сорак першага года часу прайшло — зусім нічога: не паспелі людзі як мае разжыцца, пабудавацца. А тут фашысцкае нашэсце. Так што галеча, што засталася ад буржуазнай Польшчы, шмат дзе захавалася ва ўсёй сваёй «прыгажосці». Таму, калі чую пра людзей, якія былі вымушаны эмігрыраваць далей ад такіх парадкаў, то вельмі спачуваю ім і разумею. Бо нават імя беларускаму дзіцяці ў царкве нярэдка давалі польскае. Хаця чым-небудзь, але прывязаць да чужога, адарваць ад свайго. Рэлігійны апарат быў вельмі моцны.

*— Гэта было ў мінулым, а нашага чытача цікавіць дзень сённяшні. Мабыць, і зараз на Гродзеншчыне веруючых нямала? Ці не адбываецца ўшчымленне іхніх правоў?*

— Не, і магу сцвярджаць гэта з усёй адказнасц[illegible] вядома, царква, наогул[illegible]лігія ў СССР аддзелена ад дзяржавы і школы. Але па Савецкай Канстытуцыі кожны чалавек мае права на вызнанне любой рэлігіі, каб толькі яна не ішла супраць дзяржавы і не [illegible]ахвалася на жыццё і здаро[illegible]одзей. У Гродзенскай вобл[illegible]і зараз каля паўсотні дзеючых касцёлаў. Гэта асноўная частка ўсіх касцёлаў на Беларусі. Ёсць і цэрквы. І няма ніякай дыскрымінацыі веруючых. Паўтаруся зноў: кожны савецкі грамадзянін, які мае намер адпраўляць рэлігійны абрад, мае такую магчымасць. Так, атэістычная прапаганда вядзецца, але ўціск — не! Нідзе: ні на вытворчасці, ні ў быце — веруючы нічым не выдзяляюцца. Калі яны выдатныя працаўнікі, то і прэмію атрымаюць, і медаль, і ордэн, будуць такімі ж паважанымі людзьмі, як і ўсе іншыя сумленныя грамадзяне.

*— Ну, а што тычыцца міжнацыянальных адносін?*

— Прыкладна 1/4 насельніцтва нашай вобласці пры перапісе запісваецца палякамі. Сярод іх, між іншым, і мэр самога Гродна, шмат кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў. Мы па нацыянальнай прыналежнасці людзей не дзелім. І якіх-небудзь эксцэсаў на гэтай глебе ў нас не было і няма. Нават у дні крызісу ў Польшчы, справакаванага сумна вядомай «Салідарнасцю», яе антысавецкая прапаганда поспеху ў нас не мела. І сярод польскага насельніцтва вобласці таксама.

*— Зараз савецкімі сродкамі масавай інфармацыі, у працоўных калектывах і з высокіх трыбун многа гаворыцца пра негатыўныя з'явы, што накапіліся ў нашым грамадстве. Як вы ставіцеся да працэсу ўзмацнення і паглыблення крытыкі і самакрытыкі ў краіне?*

— Я заўсёды стаяў за тое, каб ва ўсім была публічнасць. Трэба старацца з дрэннага зрабіць добрае, а не замоўчваць гэтае дрэннае. І не будзем баяцца, што пра нас скажуць «там». Ці, можа, у «іх» усё толькі выдатна? Легкавых аўтамабіляў на нашых вуліцах менш — дык гэта не самая вялікая бяда. Тавары трохі горшыя — будуць лепшыя, і тут таксама працуем. Дарэчы, пра голых, босых, галодных, бяздомных даўно ўжо ведаем толькі з замежных радыёперадач і тэлевізійных рэпартажаў. Сваёй такой сацыяльнай з'явы не маем.

Зараз адна з самых балючых сацыяльных праблем у нас — жыллёвая. І гэта пры тым, што ніхто пад адкрытым небам не застаецца. Але цяжкія ўмовы ёсць. І як часта пакуль «нашы недахопы з'яўляюцца працягам нашых вартасцей!»

*— Сёння мы гаворым пра паглыбленне і пашырэнне працэсу дэмакратызацыі ў краіне. Разам з тым яго развіццё не спынялася ніколі, але на гэтым шляху былі часы і пэўнага застою, і часы пад'ёму.*

*Чым, па-вашаму, адрозніваецца пад'ём у грамадскім жыцці краіны пасля XX з'езда партыі ад цяперашняга?*

— Размахам і глыбінёй пераўтварэнняў. У 50-я гады асноўным стала развенчванне культу асобы. Найбольш адметная і самая характэрная рыса нашага часу — імкненне разбудзіць актыўнасць людзей, усяго народа. І тут мы ўжо маем поспехі. Хаця да поўнага абуджэння яшчэ не так блізка, як хацелася б.

Мне здаецца, кожны, хто жадае, убачыць, што ў народзе значна ўзрос інтарэс да ўсяго, што адбываецца і ў краіне, і ў кожным працоўным калектыве. Людзі адчулі рэальную магчымасць асабістага ўплыву на ход агульных спраў — актывізаваўся «чалавечы фактар», рухаючая сіла ўсёй перабудовы.

*— Як часта ў вас адбываюцца шчырыя гутаркі з рабочымі, калгаснікамі? З кім вы найбольш любіце сустракацца, размаўляць?*

— Я заўсёды імкнуўся, каб чалавек быў раскаваны і гаварыў толькі тое, што думае. Інакш няма ніякага сэнсу ў тых сустрэчах.

А найбольш цікавыя для мяне гутаркі з простымі людзьмі, бо яны ўсё бачаць, дзе што не так робіцца, як гэта было б патрэбна. Мне даводзіцца выслухоўваць нямала крытычных заўваг па розных пытаннях нашага жыцця. І нават, калі скарга, здавалася б, носіць зусім асабісты характар, яна ўсё роўна адлюстроўвае і нашы агульныя праблемы.

Нярэдка работнікі скардзяцца на сваіх непасрэдных кіраўнікоў, брыгадзіраў. Хвалюе арганізацыя і якасць аховы здароўя. Асабліва з пункту гледжання ўвагі медыкаў да хворых. Узнімаюцца пытанні добраўпарадкавання населеных пунктаў.

Часцей за ўсё крытыка носіць канструктыўны характар: людзі прапаноўваюць, як выправіць тыя хібы. Хаця ёсць, безумоўна, і крытыканы, якія кожны дзень пішуць і пішуць. А каб самім прыкласці рукі і паспрабаваць нешта выправіць, то дзе там!

*— Ці не павялічыўся агульны паток скаргаў з вобласці ў вышэйстаячыя інстанцыі — у Мінск, Маскву?*

— Не. Мы заўсёды зыходзілі з таго, што трэба як мага ўважлівей ставіцца да людзей на месцах. Зразумела, адразу ўсё не зробіш, але чалавек павінен ведаць, што яго пытанне вырашаецца і будзе вырашана. Скаргаў на якую-небудзь абуральную бе[illegible]оннасць я не прыпамінаю. [illegible]ноўным гэта кватэрныя скар[illegible]. І галоўным чынам не на поўную адсутнасць жылля, а на праблемы з яго пашырэннем: вырастае сям'я, умовы робяцца больш складанымі.

*— В[illegible]асабіста дадзена вялікая [illegible]а. Як вы ставіцеся да яе?*

— Я не згодны, што мне дадзена нейкая абсалютная, аднаасобная ўлада. Такога няма і не можа быць. Ёсць сакратарыят, ёсць абком. Нельга ўяўляць першага сакратара нейкім манархам. Так, у мяне ёсць свае і абавязкі, і правы. Немалыя, дарэчы, і тыя і іншыя. Але ўсё гэта не для любавання сабой, не для дасягнення асабістых мэт, а для нашай агульнай справы — і маёй, і вашай, і кожнага нашага суграмадзяніна.

У нас, у партыйным апараце, рашэнне прымаецца толькі большасцю галасоў. Хаця бывае, што і я не згодны, і са мной не згаджаюцца. Але ўсё вырашае большасць.

*— Як вы разумееце такое паняцце, як прынцыповасць?*

— Прынцыповасць цесна звязана са справядлівасцю. Голая прынцыповасць — абсурд. Іншы раз катэгарычна гавораць: я гэтага не дапушчу, і ўсё тут. А навошта, чаму? Галоўнае — справядлівасць. Калі яе няма, то такой «прынцыповасцю» наносяць толькі крыўду чалавеку, азлабляюць.

Нават негатыўная з'ява негатыўнай з'яве розніца. Вось мы з вамі размаўляем, а на вуліцы лье дождж. А зараз жа самая гарачая пара на палях — уборка ўраджаю. Дык вось, цяпер яна не ідзе, спынена з-за непагадзі. Гэта вельмі дрэнна. Але даваць усім наганяй, маўляў, чаму стаіце,— бязглуздзіца. Хаця, што граху таіць, дэфіцыт прынцыповасці сёння ёсць: ён выяўляецца, напрыклад, у прымірэнчых адносінах да недахопаў.

*— Партыйная работа прад'яўляе да тых, хто ёй займаецца, пэўныя патрабаванні. Якія?*

— Спачатку трэба сказаць, што партыйныя работнікі такія ж людзі, як і ўсе, вылучаць іх у нейкую касту не варта. І для партработнікаў павінны быць уласцівыя ўсё тыя ж якасці, што і для любога чалавека. Толькі ў большай меры. І ў першую чаргу я хачу назваць — прыстойнасць. Калі непрыстойнасць радавога работніка менш адчувальная, то тут яе адчувальнасць узрастае ў геаметрычнай прагрэсіі.

Далей, справядлівасць. Што значыць, калі партработнік несправядлівы, пакрыўдзіў некага? Гэта значыць проціпаставіў пакрыўджанага усім нашым справам, нават усёй партыі.

Вельмі важная такая якасць, як дзелавітасць. Нам усім не хапае дзелавітасці ў цэлым. Нават прагматызму. Трэба менш гаварыць, а больш рабіць справу.

І, вядома ж, бездакорная сумленнасць і асабістая бескарыслівасць. Як гаворыцца, «калі худ, не лезь на кут». Любы чалавек у нас на зарплату можа быць адзеты і абуты, сыты.

І апошняе, што я б вылучыў (але далёка не апошняя якасць па сваёй значэнню) — прастата і даступнасць у зносінах з людзьмі.

Дагматызм нецярпімы. Трэба заўсёды мець сваю галаву. Развіваць спадчыну творча. Возьмем, напрыклад, індывідуальную працоўную дзейнасць. Некаторыя кажуць: гэта адступленне ад сацыялізму. Няпраўда. Трэба рэалізоўваць поўнасцю магчымасці кожнага, і такая форма дзейнасці спрыяе гэтаму. Усіх жа на гіганцкія прадпрыемствы не аформіш: тут і экалагічныя праблемы паўстаюць, і праблемы урбанізацыі. А возьмем сферу абслугоўвання. Тут гігантаманія проста шкодная. Калі чаравікі вязуць рамантаваць з Воранава ў Гродна, у вялікі дом быту, гэта ненармальна.

*— Які ў вас расклад дня? Як ён адбіваецца на людзях, што працуюць побач з вамі?*

— Для ўсіх супрацоўнікаў апарата абкома партыі працоўны дзень пачынаецца ў 9 гадзін раніцы і заканчваецца ў 18.15 вечара. Ёсць абедзенны перапынак. Я прыходжу таксама ў дзевяць. Заканчваю ў сем — а палове восьмай вечара. Але нікога не затрымліваю. Нават мой памочнік, збіраючыся дадому, не папярэджвае мяне. Працоўны дзень скончыўся, і калі нічога зусім ужо тэрміновага няма, то ўсе вольныя.

Я лічу, што той, хто суткамі сядзіць у рабочым кабінеце, не давярае сваім калегам. Правільная арганізацыя справы патрабуе ад кіраўніка дырыжыравання. А дырыжор не кінецца ж іграць замест, скажам, скрыпкі, якая фальшывіць. Ён павінен выправіць становішча іншым шляхам. Усё за ўсіх сам не пераробіш.

*— Гродна вядомы як горад высокай культуры. Тут сапраўды беражліва і клапатліва ставяцца да культурнай і гістарычнай спадчыны, аднаўляюцца помнікі старадаўнасці...*

— Так, у нас у горадзе 500 аб'ектаў даўніны, якія патрабуюць і ўвагі, і нямала грошай на рэстаўрацыю. Скажу толькі, што аднавіць старыя раёны горада ў два разы даражэй, чым пабудаваць такія ж новыя. Але мы ідзём і на гэта. Рэстаўрыруем помнікі архітэктуры, ствараем музеі. Сёння ў нас адна са старых вуліц Гродна ператворана ў пешаходна-гандлёвую зону.

І гэта толькі пачатак. Людзі жывуць у імя будучыні, а яна немагчыма без мінулага.

*— Леанід Герасімавіч, ад імя рэдакцыі і чытачоў газеты шчыра дзякую за гутарку і жадаю вам, усім гродзенцам поспехаў.*

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ХАЧУ, КАБ МЯНЕ ЗРАЗУМЕЛІ

Не адзін раз даводзілася мне бачыць сардэчныя сустрэчы нашых зарубежных землякоў са сваімі роднымі на беларускай зямлі. Гэта немагчыма назіраць абыякава. Кветкі, радасныя ўсмешкі, абдымкі і пацалункі, паспешныя расказы аб тых, хто сам не змог прыехаць. А на гэты раз і госці з ЗША, і беларускія жанчыны, што сустракалі іх, убачыўшыся, яшчэ раз зведалі пачуццё вялікіх страт, успомнілі дарагіх людзей, якіх ужо не ўбачаць ніколі, і, абняўшыся, доўга плакалі.

Дзевяць гадоў не былі на Беларусі Вольга Клімовіч і яе дачка Дуня. Раней іх заўсёды сустракала сястра мужа і бацькі Фёдара Клімовіча. Год назад яе не стала. А за пяць гадоў да гэтага заўчасна пайшоў з жыцця Фёдар Канстанцінавіч. Яму было ўсяго пяцьдзесят. Нашы суайчыннікі ў ЗША і ўсе, хто ведаў гэтага вясёлага, жыццярадаснага чалавека, назаўсёды захаваюць добрую памяць аб ім. Хаця Фёдар Клімовіч нарадзіўся ў Амерыцы, усе лічылі яго беларусам. Бацькі з ранняга дзяцінства прывілі яму любоў да нашай зямлі.

І ўсе свае сілы гэты чалавек аддаваў прагрэсіўнаму руху нашых суайчыннікаў у ЗША. Далёка за акіянам ён арганізаваў два танцавальныя ансамблі «Юла» ў Нью-Йорку і «Новый Архангельск» на Алясцы, навучыў дзяцей і ўнукаў беларускіх і рускіх эмігрантаў танцаваць нашы танцы і арганізоўваў канцэрты ў розных гарадах ЗША. Фёдар Клімовіч быў адным з актывістаў Араў-парку, кіраваў арганізацыяй суайчыннікаў у Грынпойнце і кожны год прывозіў у Беларусь групы турыстаў — землякоў з ЗША. Зараз справу мужа працягвае Вольга Клімовіч. Яна працуе ў рэдакцыі газеты амерыканскіх суайчыннікаў «Русский голос», з'яўляецца членам дырэкцыі Араў-парку. Сваю любоў і адданасць Радзіме бацькоў Фёдар і Вольга перадалі і дачцэ. Яшчэ дзяўчынкай Дуня Клімовіч танцавала ў ансамблі «Юла», не раз прыязджала з ім у Беларусь, яна свабодна гаворыць на беларускай і рускай мовах.

За некалькі дзён, праведзеных у Мінску, Вольга Ільінічна і Дуня паспелі вельмі многае ўбачыць, пабывалі на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы, мемарыяльным комплексе «Хатынь» і, вядома, кожны дзень сустракаліся з роднымі.

— Мы бясконца ўдзячны Беларускаму таварыству «Радзіма» за запрашэнне ў Мінск, за цудоўную магчымасць так блізка пазнаёміцца з вашым жыццём, — гаворыць Вольга Клімовіч. — Для нас гэта паездка была і бясцэнная магчымасць сустрэцца з маімі роднымі, са сваякамі мужа. Мы парадаваліся за іх. Ва ўсіх добрая работа, нядрэнныя заробткі. Але самае галоўнае, мы адчулі, што іх цэняць грамадства і дзяржава, і самі яны ўсведамляюць сваё значэнне, карысць ад сваёй работы. Ва ўсіх ёсць планы на будучыню, і ніхто не думае аб тым, што можа застацца без работы, што жыццё стане горшым. Наадварот, усе ўпэўнены, што будзе лепш. У нас, у Амерыцы, такога маральнага настрою ў простых працоўных няма.

— А мне вельмі спадабалася ваша метро, — уступае ў размову Дуня. — Калі я была ў Мінску мінулы раз, яно толькі будавалася. Зараз мы мелі магчымасць праехаць праз увесь горад, агледзець станцыі. Яно робіць асаблівае ўражанне на нас, нью-йоркцаў, сваёй чысцінёй і парадкам. Вы, мабыць, чулі, што аб нашай падземцы ідзе дрэнная пагалоска далёка за межамі ЗША. А найбольшае ўражанне на мяне зрабілі грандыёзныя маштабы будаўніцтва ў Мінску. Адна наша сваячка раней жыла ў старым доме па вуліцы Някрасава. Яго знеслі, і зараз там велізарны жылы квартал, а яе сям'я атрымала выдатную кватэру ў новым раёне Вяснянка. Мы амаль кожны дзень ездзілі да іх у госці. Я бачыла, што побач будуецца вельмі шмат дамоў і за гэтыя дні яны выраслі на некалькі паверхаў.

— Уражанняў у нас многа. Калі б я ўмела, можна было б напісаць цэлую кнігу,— усміхаецца Вольга Ільінічна.— Але я хачу сказаць пра тое, што мы адчуваем кожны раз, бываючы ў Мінску. — Мы ездзім у Хатынь, каб аддаць даніну памяці тым, хто загінуў у Вялікай Айчыннай вайне. Мы не павінны дапусціць, каб вайна паўтарылася. Сёння гэта галоўная задача ўсіх людзей на зямлі. І мяне вельмі радуе і абнадзейвае, што ваша краіна робіць так многа для за[illegible]ння міру. Радуе і тое, што пра мірныя ініцыятывы Савецкага ўрада сёння становіцца вядома ўсё большай колькасці амерыканцаў. Яны знаходзяць падтрымку ў ЗША. Наш народ усё бол[illegible] настойліва патрабуе ад у[illegible]да зрабіць крокі насустрач, каб мы назаўсёды змаглі пазбавіцца ад страху за будучыню сваіх дзяцей.

— Я абсалютна згодна з мамай, — дадае Дуня.— Пры цяперашніх абставінах ніхто не можа заставацца ў баку ад барацьбы за мір. Я хачу, каб вы мяне правільна зразумелі. Мне дарагая ваша краіна, бо тут мае карані, але ўсё ж я амерыканка. Я ганаруся тым, што належу да гэтага вялікага народа і магу вас запэўніць, што пераважная большасць амерыканцаў не хочуць вайны. У той жа час мне крыўдна, што ў нас яшчэ ёсць вельмі ўплывовыя сілы, якія робяць усё, каб прадставіць Савецкую краіну агрэсарам, і, на жаль, у многіх амерыканцаў сёння аб ёй менавіта такая думка. Вы, напэўна, ведаеце, што вясной у нас па тэлебачанні дэманстраваўся фільм «Амерыка» — аб уварванні савецкіх войск у ЗША. Я чула, што ваша тэлебачанне хацела яго купіць, але гэта не атрымалася. І добра, што савецкія людзі не пабачаць такога фільма. Яны былі б абражаны і, можа, сталі б горш ставіцца да нас. А мы павінны паважаць і разумець адзін аднаго. Я хачу, каб амерыканцы зразумелі вас, каб тыя, хто прадстаўляе савецкіх людзей такімі, як яны паказаны ў фільме «Амерыка», пазбавіліся ад гэтай памылковай думкі. А для гэтага ім трэба ўбачыць вашу краіну, пазнаць вашых людзей. Таму я вырашыла, што павінна заняцца арганізацыяй маладзёжных турысцкіх груп у Савецкі Саюз. Калі мне гэта ўдасца, дык яшчэ некалькі дзесяткаў амерыканцаў стануць вашымі сябрамі і адносіны паміж нашымі краінамі, хоць, крыху, але палепшацца.

**Рыгор ФАМЕНКА.**



# МЕСЦА ПРАЦЫ—ДЗІЦЯЧЫ САД





**Тры гады назад пасля сканчэння Маладзечанскага музычнага вучылішча Мікалай Шупілаў прыйшоў на работу ў дзіцячы сад № 334 Ленінскага раёна Мінска і шчыра сказаў загадчыцы: «Я да вас ненадоўга. Пакуль што-небудзь іншае не знайду...» Мікалай ін[illegible] месца работы не стаў шукаць. Ён і яго [illegible]лівыя, вясёлыя, музыкальныя, часам няўрымслівыя выхаванцы сталі добрымі сябрамі.**

**Заняткі рытмікай і спевамі, ранішнікі і святочныя канцэрты, падрыхтаваныя музыкальным кіраўніком Шупілавым, праходзяць у садзе заўсёды цікава, радасна для дзетвары.**

**З лёгкай рукі Мікалая Шупілава стала стварацца ў калектыве выхавацеляў дзіцячага сада яго «мужчынская палавіна». Неўзабаве за Шупілавым сюды прыйшоў працаваць інструктарам па фізкультуры Юрый Васюкевіч.**

**Смачныя абеды і вячэры стараецца прыгатаваць для ўсіх 12 груп малады повар Сяргей Леановіч. Яго апетытныя катлеты, запяканкі і салаты з цудоўнымі назвамі «Фантазія», «Адуванчык» вельмі падабаюцца малым.**

**Ёсць у садзе і няня «дзядзя Ігар». Ігар Пятроўскі прыйшоў сюды пасля службы ў Савецкай Арміі па рэкамендацыі былога аднакласніка Сяргея Леановіча.**

**...Апусцелі ўтульны двор, спальні і пакоі для гульняў. Заўтра надыдзе новы працоўны дзень. І чацвёра маладых хлопцаў пачнуць яго з радасцю і ўсмешкай.**

**НА ЗДЫМКАХ: заўсёды вясёлыя і цікавыя заняткі ў Мікалая ШУПІЛАВА; выхаванка дзіцячага сада Халімат УМАЛАТАВА; повар Сяргей ЛЕАНОВІЧ гатуе смачна.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**

# НУМАР РАХУНКУ—702

Тысячу амерыканскіх долараў пераявла на рахунак Савецкага фонду культуры пенсіянерка з Севастопаля Ганна Чарнэй. У гэтым паведамленні, атрыманым намі з Дзяржбанка СССР, памылкі няма. Справа ў тым, што Севастопаль, аб якім ідзе гаворка, знаходзіцца не на Чарнаморскім узбярэжжы, а ў амерыканскім штаце Каліфорнія, Чарнэй жа — грамадзянка ЗША.

Але нарадзілася Ганна на беразе Чорнага мора, у Адэсе. Яе бацькі, якія не зразумелі Кастрычніцкай рэвалюцыі, пакінулі Радзіму, завезлі ў Злучаныя Штаты маленькую дачку. Такі ж лёс дастаўся і яе мужу. Відавочна, таму абодва пры першай жа магчымасці імкнуліся з'ездзіць у Савецкі Саюз. Восьмая паездка на Радзіму аказалася для Г. Чарнэй асабліва памятнай: яна стала ўдзельніцай Сусветнага кангрэса жанчын, які праходзіў у Маскве. А калі закончыўся форум, яго ўдзельнікі раз'ехаліся ў розныя куткі нашай краіны. Ганна Чарнэй выбрала Мінск.

Знаёмства з помнікамі беларускай нацыянальнай культуры зрабіла на яе незабыўнае ўражанне. А наведаўшы Дзяржаўны мастацкі музей БССР, госця з ЗША цвёрда вырашыла ўнесці і свой пасільны ўклад у прымнажэнне музейных багаццяў.

— Гэты ўзнос іншаземка зрабіла, як гаворыцца, без рэкламы, як і належыць шчырым, сціплым людзям, таму паведамленне аб ім мы атрымалі толькі тады, калі Чарнэй паехала з Мінска, — гаворыць старшыня праўлення Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР пісьменнік І. Чыгрынаў. — Што стала прычынай, якая падахвоціла яе на такі крок? Знаёмства з унікальнымі палотнамі Айвазоўскага, што захоўваюцца ў нашым музеі і якія адначвілі ў памяці карціны далёкага дзяцінства? А магчыма, успаміны аб днях, калі яна працавала ў газеце побач з Джонам Рыдам, робячы ўсё магчымае для ўмацавання дружбы і даверу паміж народамі Савецкага Саюза і ЗША? Думаю, важныя не матывы ўчынку — неацэнна яго высакароднасць. Уклад Ганны Чарнэй прызначаецца Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР для набыцця новых жывапісных і скульптурных работ. Для гэтых мэт ён і будзе выкарыстаны (як, дарэчы, усе ўзносы, зробленыя грамадзянамі).

Змяніўся нумар рахунку Савецкага фонду культуры ў Дзяржбанку СССР, — удакладніў І. Чыгрынаў. — Раней ён быў 700. На ім захоўваюць грошы ўсе грамадзянскія арганізацыі— ЦК ВЛКСМ, творчыя саюзы, таварыства «Радзіма», Савецкі фонд міру, грамадскія саветы. Таму, афармляючы пералічэнне, трэба было ўказваць, што ўзнос прызначаецца менавіта Фонду культуры, а калі такой паметы не было, узнікала блытаніна. Цяпер у нас асобны рахунак. Яго нумар — 702. Кожны, хто мае намер зрабіць ахвяраванне, можа быць упэўнены, што яго грошы знойдуць адрасата і будуць выкарыстаны па прызначэнню. Грошы ў замежнай валюце пералічваюцца на рахунак у Знешгандальбанку СССР, нумар 70000002.

**В. КУДРАЎЦАВА.**

# The cruel memory of war

**Vasil Bykov, People's Writer of Byelorussia, Hero of Socialist Labour and Lenin-Prize winner, is known to millions of readers all over the world.**

**Bykov was born in the Vitebsk Region, and studied in the local arts school. One Saturday morning, he brought his papers to the Ukrainian town of Shostka to enter the Industrial Institute. The following day, Sunday, June 22, the war broke out and shaped his life.**

**At the front Bykov commanded a battery of «45s». When, due to casualties, there were not enough men, he was put in the command of a rifle platoon. In 1944 he was badly wounded near Kirovograd and, according to the official killed-in-battle notice received by his mother, buried in a common grave.**

**But fate, it seems, wanted Bykov to live for our sake as well as for literature, since no one else could have told us about the war the way he has. His talent, like any other gift, is unique.**

**It was only natural to start with the writer's new novel «The Sign of Trouble», which has been awarded Lenin Prize.**

**Q.: I have the impression that the heroes of your novel, Stepanida and Petrok, who live on a separate farmstead, «khutor», are somehow dearer to your heart than the «average» protagonist. Are they modeled after your parents?**

A.: The Sign of Trouble does reflect some of my childhood. And, indeed, Petrok and Stepanida do share some traits with my parents. Stepanida, though, is closer to my aunt, while Petrok absorbed a little of my father and a little of a man who lived in the same village and whose name was also Petrok. Actually, our family has never lived on a farmstead.

**Q.: Why then have you chosen the farmstead as your heroes' home?**

A.: First, I wanted to separate them from other village dwellers to scrutinize them better and penetrate into the depth of their souls.

Second, it served to emphasize a very important facet of my philosophy: no matter where you live, even on an uninhabited island, you cannot shut yourself off from humankind and its concerns. You may do your best to avoid the twists and turns of life, but one day it is sure to catch up and then you are faced with tragedy.

The bridge that connects the farmstead with the outside world is a symbolic one. I think that universal joy and grief will inevitably find a way to reach everyone. We are all joined together, people and countries alike. Problems of the environment and the Chernobyl accident clearly show that we cannot live behind fences but must join hands to ward off a disaster, any disaster. If we fail to do this, we'll be overwhelmed with no chance of survival.

**Q.: As a writer, I'm more fascinated with Petrok. A timid person, if there ever was one, who shuns any struggle and would never say «boo» to a goose, then explodes with sudden vehemence. Why?**

A.: He has a typically Byelorussian character lacking in ostentatiousness and heroism. He is humble, rather than simply gentle, more in Tolstoy's line of philosophical non-resistance to evil. But come the hour of trial, and nothing can make Petrok bend even one knee. The enemy's violence provokes his wrath. Non-believer but god-fearing in his heart, Petrok is ready to revolt against God. He did not himself suspect what great forces lay dormant in him. Fascism is powerless against such people. They may be killed, but never broken.

**Q.: Some critics, I gather, frowned upon the d[illegible]ncement of the novel arguing [illegible]t Stepanida could not have brought and stowed away a bomb as she does in «The Sign of Trouble». She simply wouldn't know how to use it. What can you say on the score?**

A.: That's all righ[illegible] long as you regard the bomb as a mere explosive device. But it is not true. I have deliberately crossed the realistic confines to make bomb a symbol. The action takes place 1941. The nationwide partisan war still lies ahead, the bomb has not yet been exploded. Stepanida has kept it and prepared it. And what a great explosion it will be — in Byelorussia alone the partisans numbered nearly half a million.

That was the idea for the end. Whether it has come out right or not is not for me to decide.

*«The Pit», a new story by Vasil Bykov, has appeared in two literary magazines «Druzhba Narodov» and «Polymya» (in Byelorussian). Again it has a critical situation with only a few people involved, with tense and tragic passions. But there is a new slant to the plot adding to its poignancy.*

*Many years after the war ended, Ageyev, the main figure in the story, starts digging out a pit to shed some light on the fate of people he shared his past with.*

**Q.: For Ageyev, it is not just digging a pit. Some profound meaning is to be found deep down. What's your opinion?**

A.: He digs into his memory. We, the frontline veterans, have a memory of the war that has been evolving through a number of stages. Right after the war we tried not to talk or think about it. Our only wish was to forget the horror; we had been through fear of going crazy. Later, after we calmed down a bit, there arose an acute desire to reconstruct the past in every detail, to remember «how it all really was». We had to remember for our own sake and for future generations. That is why, late in his life, Ageyev starts digging his pit.

**Q.: What is it he hopes to unearth?**

A.: Many, many things.

The heroes of my earlier works, soldiers and officers, found themselves in extreme situations at the front line. In The Pit, a regular officer, and a wounded one at that, is tossed by the war into a struggle completely new and strange to him.

Everything is strange and unfamiliar, but the figh has to be continued. Torturously, he seeks contacts with partisans and the underground. They do not come easily.

At this moment, he meets Maria, his first and last love. Love, surrounded by death that haunts and finally overruns it. Can there be anything more dramatic than the death of a woman, the mother and the progenitor of the human race? Of course, no number of years will bring peace to Ageyev's soul. He is and will be, till the end of his days, tormented by doubts whether it was a mistake of his to have sent Maria to the partisans with a basket of tolite.

**Q.: There is a woman in nearly every story you have written. And each time she has a tragic fate. Does this theme torment you?**

A.: Yes. Women and war are incompatible. The juxtaposition is monstrous. We, men, should protect women from unnatural concerns and cares, but we fail to do so. This is where all the drama and tragedy lie. Many writers turn to this theme and I shall probably do it more than once.

**Q.: «The Pit» has an open ending. Ageyev doesn't find out whether Maria had been shot in the pit. Anyway, he has no conclusive evidence of her death. How should the suspense be understood? Did you want to spare the reader?**

A.: No, I wanted to spare Ageyev. Man cannot live without hope. I've left him his dream — what if she is alive, had somehow survived? Can it be that one day he finds Maria, alive? Let him live and hope that love has not been killed. Thus, a bulldozer that fills in the pit prevents Ageyev from excavating the truth. Let hope be his reward.

**Q.: I happen to know that you have a new story up your sleeve. Does it also feature a woman with a tragic fate?**

A.: No, it is about three partisans caught in a desperate situat[illegible] Only one survives.

**Q.: So it is a war theme again. Have you any plans to write about modern life?**

A.: No... I'm not to blame for writing exclusively about war. It is [illegible]var's foult, not mine. Those [illegible]o have escaped from the inferno are haunted by it in their dreams years after the victory. Many never returned. The cruel memory of war compels us to write about those who never came back. We owe that much to the dead. Besides... the world today is so cram packed, full of explosives that war is very contemporary theme, in fact, it comes first on the agenda.

**Interviewed by**
**Nikolai MATUKOVSKY**

# WRITE BACK, JAMAL

El-Sabbag Marwan, a 1985 graduate of the Byelorussian Polytechnical Institute, is now engaged in advanced studies at the Electric Equipment and Industrial Automation Department of the same Institute. He has written through our newspaper to his childhood friend Jamal Maamari, who he knew in Tripoli, Lebanon. Both dreamed of becoming engineers, but their ways parted when Marwan went to study in the USSR, while Jamal left for the USA.

IT IS almost two years since we saw each other last. I don't know where or how you are. That's why I have decided to write to you through the newspaper in the hope that you might read it and write back.

Back home I heard that you still reside in the United States. I also live away from home. After graduating from the Byelorussian Polytechnical Institute, I returned home for a while, and then decided to continue my studies. The dean's office at the Institute granted my wish. Thus I came back to Minsk where I feel quite at home now. As an advanced studen, I study according to individual curriculum and take part in research. I have sophisticated equipment, labs and technical libraries at my disposal, and have every opportunity to improve my theoretical knowledge and acquire practical skills.

Dear Jamal, do you remember the time when we sent inquiries to the USA and Canada to find out about opportunities for getting a higher education, and received replies saying, in effect, that we were welcome if we could afford to pay 4,001 dollars a year. I remembed wondering why the fee was 4,001 dollars of all figures.

In the Soviet Union, all education is free. On top of that, the state provides students with monthly grants. Of course, these are very modest: 40 to 45 roubles (foreign students get twice as much: 90 roubles). You can survive on this, as meals at student canteens are very cheap, transport costs 5 kopeks, a cinema ticket is 50 kopeks, and a theatre ticket costs from 70 kopeks to two roubles.

Anyway, the money is not the most important thing. This is that everyone here can get a trade or profession and be sure of a job. Undergraduates are informed of their future employment at least one year in advance. Unfortunately, back home far from all graduates get the chance to work according to their speciality. Therefore, upon graduation, many young people go overseas to look for jobs. I wonder if the job situation in the United States is any better?

Having lived for years in the States, you must know the country quite well. What do average Americans think about the US warships stationed far away from the American shores to "defend US national interests" off the Lebanese coast? I don't think they are indifferent to this. Soviet people are genuinely concerned about the situation in Lebanon and the on-going civil war in my country. They take other people's troubles to heart. You might not know that during World War II, one in every four citizens of Byelorussia was killed; 209 Byelorussian towns were destroyed; 9,200 villages and settlements were burnt to the ground; in over 600 villages the people were burnt to death, too. Despite all that suffering, people's hearts have not hardened, they are still warm and kind.

My wife and I have a new daughter. Darin is a robust baby and demands plenty of attention. We get the expert assistance of a pediatrician and a trained nurse, who pay us regular visits, as is the general procedure in this country: when a baby is born, a doctor and a nurse come to see it even if the parents do not call them. They monitor the baby's progress and give the parents all the necessary advice. These services are free of charge, as is all medical assistance in the USSR.

In short, I am quite satisfied with my life here. My studies are going well, and I have grown quite used to the country and its people. Apparently I am no exception. In February, I ateended the conference of Lebanese students residing in several Soviet cities (there are more than 3,000 Lebanese here), and concluded that we all share the same feelings.

I would like to know how you are getting on, and what your life is like. Please write to me.

With warm regards and best wishes.

Yours,
MARWAN

# *BOOKS BY AMERICAN AUTHORS IN THE USSR*

Every year Soviet Publishing Houses release a large number of books by American authors in many languages of the Soviet Union. These include fiction — novels, poetry, plays, critical essays on art and culture, reference books, reviews of various aspects of science and technology.

According to statistical data, 9 973 works of American authors have been published in the Soviet Union since the WWII in 404 miilion 211 thousand copies. In 1986 alone, 290 works in 24 518 000 copies were published in this country.

Among American authors, loved most by Soviet readers, are Edgar Allan Poe, Herman Melville, John Steinbeck, O'Henry, Ernest Hemingway, William Faulkner, Irwin Shaw, F. Scott Fitzgerald, Mark Twain, John O'Hara, Tennessee Williams, Eugene O'Neill, Arthur Haily.

941 editions of Jack London's works totalling 71 043 000 copies have been published in 32 languages of the USSR. Mark Twain's books have gone through 464 publications in the Soviet Union, with the total number of 42 292 000 copies. Theodore Dreiser's works have been published 264 times and total 30 011 000 copies, whereas Fenimore Cooper's books — 186 times with the overall number of 30 559 000 volumes.

Huge popularity amongst Soviet readers has gained «American Literary Library», which embraces American literature from its beginnings down to the present day. «Raduga» and «Khudozhestvennaya Literatura» Publishing Houses in Moscow have published in this series the books of F. Scott Fitzgerald, John O'Hara, Nathaniel West, Eugene O'Neill, and many other authors.

This year the Russian edition of Margaret Mitchell's «Gone with the Wind» came out in Moscow in 500 000 copies. Readers' interest was aroused by Taylor Branch and Eugene M. Propper's «Labyrinth», J. Patrick Wright's «On a Clear Day You Can See General Motors», W. Hinckle's and W. Turner's «The Fish is Red» and other recently translated and published works. Soviet lovers of science fiction and adventure received many books by Herbert Wells, Isaac Asimov, Ray Bradbury, and many other renowned authors.

45 000 copies of Ernest Hemingway's «Works» in five volumes came out in 1972—1974. Apart from that, many of his novels were published separately both before and after the five-volume edition. In 1986 our readers welcomed 50 000 copies of his selected prose «...The Short Moment of Happiness», which includes «A Farewell to Arms», «Green Hills of Africa», «A Moveable Feast», «The Old Man and the Sea», and other works.

In the recent years our readers have also received Arthur Haily's «Airport», «The Complete Works of O'Henry» Irwin Shaw's «Rich Man, Poor Man», Andrew Turnbull's «Scott Fitzgerald», and many other books.

## У РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ЗМАГАННІ ЗНАХОДЗІЦЬ ПАЭТ І ВЫШЭЙШУЮ ДУХОЎНАСЦЬ, І МАРАЛЬ, І ІДЭАЛ ПРЫГОЖАГА

# СЫН НАРАЧАНСКАЙ ЗЯМЛІ

*Максіму ТАНКУ — 75 ГАДОЎ*



У ягоных «Лістках календара» ёсць цікавы запіс, пазначаны 14 чэрвеня 1939 года: «Мне здаецца, што няма ў нас месца, дзе не было б паэзіі. Яна вакол нас, як паветра. Я яе знаходзіў і ў турэмнай адзіночцы, дзе былі толькі голыя сцены. Праўда, былі часы, калі я яе не бачыў, але гэта былі часы мае слепаты».

Малады М. Танк узяўся за пяро, каб «перапісаць старанна» тыя крывавыя сляды, што пакінулі панскія кайданы, бізуны, краты на целе і жывой душы народа. Мастацкае слова, груваcткі, эмацыянальна напяты радок верша асацыіраваліся ў свядомасці М. Танка з нястомнай, бязлітаснай барацьбой за ўз'яднанне працоўных Заходняй Беларусі са сваімі ўсходнімі братамі. Якраз у рэвалюцыйным змаганні, падпольнай камуністычнай дзейнасці знаходзіў паэт і вышэйшую духоўнасць, і мараль, і свой ідэал прыгожага.

> Аловак адабралі —
> Пішу скупым промнем сонца,
> што прабіўся праз краты;
> Паперы няма —
> Пішу на стаптаным паліцэйскімі ботамі,
> Акрываўленым лісце
> сваёй памяці...

Парой творчага ўзлёту стала для М. Танка другая палова 50-х — 70-я гады. Яго творчасць паўстае цяпер як «адзіны скразны маналог пра час, пра лёсы канкрэтных людзей і ўсёй планеты ў цэлым».

Жывым адчуваннем зліцця з жыццём народным прасякнуты вельмі многія вершы паэта. М. Танк, як, магчыма, ніхто іншы ў сучаснай беларускай паэзіі, незвычайна глыбока адчувае і светлыя, і трывожныя подыхі нашай ракетнай эпохі. Вострыя праблемы сацыяльнага жыцця і будучыні чалавецтва, супрацьстаянне двух светаў, барацьба прагрэсу і цемрашальства набываюць у М. Танка першаступеннае значэнне для яго асабістага жыцця і грамадзянскага самавызначэння. Яны кладуць свой драматычны адбітак літаральна на ўсё, што хвалюе мастака, пра што ён думае, чым жыве.

Паэт востра ўсведамляе прынесены XX стагоддзем парадокс — зямля сёння не толькі не бясконцая, якой яна здавалася нашым папярэднікам, але і цесная. Ранейшыя ўяўленні аб прасторы страцілі сваю непарушнасць. Пагроза новага, ужо ядзернага сусветнага пажару ўвесь час расце. Несумненна, менавіта таму М. Танка ніколі не ўбачыш у ролі «натхнёнага сузіральніка». «Шматгалосы звон людской трывогі б'е з кожным днём мацней» у паэтава сэрца.

Часцей за ўсё ў творах М. Танка антываенная тэма вынікае з усяго роздуму аўтара над глабальнымі праблемамі сучаснасці, яна праходзіць у вершах нібы падспудна, іншы раз другім планам, прарастаючы часам толькі асобнай метафарай ці параўнаннем. Чытаючы адзін з іх — «Нашто цябе наведаў, поле...», міжволі спыняемся на радках:

> Арлуе цішыня арламі
> На сотню кіламетраў з гакам.
> І толькі чуць над курганамі:
> Звіняць званы трывожных макаў...

Матыў памяці — адзін са скразных, пастаянных у паэзіі М. Танка. Вайна незагойнай ранай вярэдзіць сэрца паэта, «вогненны час заходзіць у творчыя задумы», мінулае «ўзрываецца» ад аднаго «дотыку-намёку» (М. Арочка). Для яго страціць памяць — значыць, зняць з сябе ўсю адказнасць за жыццё, за чалавека, значыць, пазбавіць свет гістарычнай аб'ектыўнасці і праўды. І, відаць, маюць падставы крытыкі, калі называюць паэта, разам з В. Быкавым, адным з самых «памятлівых» у сучаснай беларускай [illegible]ратуры.

> Дрэвы забылі пра буры і страты,
> Раны свае загаіла зямля.
> Толькі нічога забыць не змагла ты,
> Памяць мая!
>
> Скруткі калючага дроту — засекі,
> Гул ка[illegible]ы, дарогі вайны,
> А на п[illegible]рышчах — сосны-калекі
> Ды курганы.
>
> Нават і сёння, калі зноў на золку
> Я запяваю з птушынай сям'ёй,—
> Чую, іржавыя ныюць асколкі —
> У песні маёй.

Сённяшні М. Танк найбольш уражвае і запамінаецца якраз у гэтым «грамадзянскім аблічы страсна заклапочанага чалавека», «устрывожанага праўдалюба», вачам якога адкрываюцца бясконцыя неўладкаванасці свету.

Новыя адкрыцці ў навуцы і тэхніцы, выхад чалавека ў адкрыты космас звязаны для М. Танка з цэлым колам маральных праблем, з думкай аб адказнасці чалавека за вынікі няспыннага поступу навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Несумненна, якраз гэтым пачуццём прадыктаваны вершы многіх зборнікаў.

Можа здарыцца, што знікне лясное покрыва, і галасы загубленых дрэў данясе нашым нашчадкам сінтэтычная плёнка («Дарогай дыму»), можа здарыцца, што паэта за напісанне непрадбачанага, незапраграміраванага верша паклічуць у суд робаты («Павестка ў суд»). Гэты, як зазначалася крытыкай, заснаваны на прыёмах перабольшання і завастрэння позірк у будучыню — заклапочаны роздум аб сённяшнім жыцці, гуманістычнае дбанне аб тым, каб людзі былі людзьмі, каб чалавецтва, усталяваўшы жыццё «без войнаў, рабства і багоў», шанавала, развівала і паляпшала свае духоўныя, маральныя асновы. Мастак настойліва сцвярджае думку: чалавек павінен быць вартым такой непаўторнай прыгажосці, якой з'яўляецца жыццё.

«Без адкрыцця новага не можа быць сучаснай паэзіі», — пісаў М. Танк яшчэ ў 1937 годзе. Гэтай сваёй даўняй выснове ён верны і зараз і таму ў кожным новым зборніку паўстае перад намі і як стары знаёмы, і як чалавек і паэт, які абнаўляецца разам са сваім часам. Пастаяннае імкненне М. Танка да наватарскага пошуку агульнавядомае. Ён самы яркі і паслядоўны прыхільнік верлібра ў беларускай паэзіі. Вельмі часта яго вершы маюць форму свабоднай, нязмушанай размовы, роздуму, падтрыманых то багатым вобразным асацыятыўным радам, то дасціпным сілагізмам. Неспакойная, напружаная і ў той жа час артыстычная па свабодзе выяўлення думка заўсёды спадарожнічае яго верлібру.

«Мне за ўсё даражэй небасхіл нарачанскі...» — напісаў аднойчы М. Танк. «Нам за ўсё даражэй яго вернасць роднай зямлі і яе людзям, яго палымяны патрыятызм», народнасць і грамадзянская страснасць, мастацкая і духоўная смеласць.

**Мікола МІКУЛІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ: Максім ТАНК. 1941 год; з унучкай Кацяй. 1986 год; Максім Танк выступае перад выбаршчыкамі Бярозаўскай ДРЭС. 1970 год; пісьменнік (крайні справа) з калегамі Сцяпанам АЛЕКСАНДРОВІЧАМ і Міхасём ЛЫНЬКОВЫМ на Нарачы.**

**Фота У. КРУКА.**





**Максім ТАНК**

***

Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці;
Ты яшчэ — чвэрць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;
Ты толькі — паўчалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на любоў,—
І толькі тады становішся чалавекам,
Калі ўсе могуць спадзявацца
На цябе.

***

Ёсць жа людзі,
Якія нарадзіліся ў кашулі.
А мне і на дзяругу
Зарабіць,
Трэба было да сёмага поту
Старацца.

***

Ёсць жа мудрацы, у якіх
Адказаў больш, як пытанняў.
А ў мяне — наадварот:
Больш пытанняў, як адказаў.

Ёсць жа шчаслiўцы,
У якіх усё ладзіцца,
А я ў жыцці ўсё перарабляю
І перарабляю.

І як жа мне быць
Сабой задаволеным!

### ВАДА

Не буду спрачацца,
Якая лепшая вада:
Ці дыстыляваная,
Водаправодная,
Ці з рэкламнымі этыкеткамі
На бутэльках.

Я прывык да звычайнай:
Крынічнай, калодзежнай,
Азёрнай,
Дажджавой,
У якой —
Залатыя светлячкі —
Драбінкі пяску,
Пушынкі дзьмухаўца
І сінява неба.
Гэта яе напіўшыся,
Зелянеюць дрэвы,
Цвітуць лугі,
Пяюць птушкі
І хутчэй загойваюцца
Любыя раны.

### У ЗАВЕЮ

Завея.
На апусцелых вуліцах
Ні пешаходаў,
Ні дрэў, ні ліхтароў,
Усе пахаваліся куды маглі.

Завея.
Можна было б вярнуцца дамоў
Трамваем, што цягнецца,
Аснежаны, як прывід.
Але я не спяшаюся.
Нейкай знаёмай паказалася
Мне гэта завея.
Толькі не магу прыпомніць,
Дзе сустракаўся з ёю.
Ці то на
Франтавой дарозе,
Ці на папялішчах
Роднага сяла!
А мо яшчэ раней:
Калі за пазухай
Нёс з першай сваёй песняй
Падпольныя лістоўкі,
Ці калі Віленскім гасцінцам
Гналі пад канвоем.
А мо яшчэ раней,
Калі з далёкай школы
Брыў цаліной сумётаў
І маці, занепакоеная,
Ля варот страчала...
Завея...

***

«Sta viator!..» Я спыніўся
Каля помніка-граніта.
Ну пра што паведаць хочаш,
Друг нязнаны і забыты!

Ці ж не бачыш, што спяшу я
Гэтай поўначчу туманнай
Да палаца Камандора
На сустрэчу з доннай Аннай.

Будзе час нам на бяседу,
Калі вышчарбіцца шпага,
Змоўкне звон маёй гітары
І з табою побач лягу.

***

Паглядзі, і сёння
Перамігваюцца зоры,
Як некалі мы
Перад першым пацалункам.

Толькі, відаць, у іх
Больш цярпення і часу, як у нас,
Бо мы ўжо з табой
І ўнукаў дачакаліся,
А яны ўсё яшчэ перамігваюцца.





**На самалёце ўласнай канструкцыі зрабілі палёт маладыя рабочыя Мінскага завода шасцерняў. І назвалі яны гэты арыгінальны лятальны апарат, як і свой клуб тэхнічнай творчасці, — «Мір».**
**Зараз у клубе каля пяцідзесяці чалавек розных узростаў і прафесій.**

**На рэспубліканскім аглядзе-конкурсе лёгкіх лятальных апаратаў самалёт «Мір-02» заняў першае месца, атрымаўшы высокую ацэнку спецыялістаў. Майструюць у клубе і іншыя лятальныя апараты — планёры, самалёт тыпу біплан — і неўзабаве спадзяюцца выпрабаваць іх у паветры.**

**НА ЗДЫМКАХ: у палёце — лятальны апарат «Мір-02»; члены клуба тэхнічнай творчасці «Мір» ля свайго самалёта. Першы злева — кіраўнік клуба інжынер Мінскага завода шасцерняў Аляксандр ЗДРОК.**

**Фота Г. СЯМЁНАВА.**

***ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ ВУЧОНАГА***

# НЕВЯДОМЫЯ ПІСЬМЫ АДАМА БАГДАНОВІЧА

Першае паўгоддзе 1917 года аказалася вельмі трагічным для Адама Багдановіча, бацькі паэта Максіма Багдановіча. За некалькі месяцаў адзін за адным паміраюць тры яго сыны — Раман, Максім, Леў. Чатырохгадовы Раман, на думку бацькі, самы здольны з дзяцей, памёр у студзені. Магчыма, Адам Ягоравіч паведамляў пра гэта Максіму, але да нас тое пісьмо не дайшло. Затое ў Мінску ў Архіве літаратуры і мастацтва ёсць паштоўка А. Багдановіча да сына Льва, які знаходзіўся ў той час у дзеючай арміі.

«У меня большое горе, — пісаў сыну Адам Ягоравіч.— 6 января Роман скончался от воспаления лёгких... Пиши, милый, чаще. Тоскливо, особливо теперь, когда дом наш опустел. Спаси тебя Господь. Твой папа. 19.I.1917 г.».

У час лютаўскай рэвалюцыі Максім, зусім хворы, выехаў з Мінска ў Ялту. Грошы на білет і дарогу далі яму сябры, спадзеючыся, што крымскі клімат дапаможа паэту. Адам Ягоравіч напісаў яму, што сустрэне ў Сімферопалі, куды пераводзіўся на новую службу. Аднак усё склалася не так, як думалася: бацька змог выбрацца з Яраслаўля на дзесяць дзён пазней, чым планаваў, пасля затрымаўся на чатыры дні ў Маскве, бо не мог купіць білет на цягнік. Максім таксама ехаў без прыгод толькі да Гомеля, а пасля снежныя заносы на чыгунцы прымусілі яго галадаць разам з усімі тры дні ў полі. Дабраўшыся, нарэшце, да Сімферопаля, ён не знайшоў бацькі, таму, не марудзячы, паехаў у Ялту.

Неўзабаве ў Сімферопаль прыехаў Адам Ягоравіч у якасці выконваючага абавязкі кіраўніка аддзялення банка. У Таўрычаскім аддзяленні Сялянскага банка заўсёды было шматлюдна. Старое жыццё разбуралася на вачах, а ў новае, лепшае з-за разгулу анархіі не верылася. Наколькі складаны быў той час, сведчыць пісьмо Адама Ягоравіча да Кацярыны Пешкавай, якое я знайшоў у Маскве ў Архіве Максіма Горкага:

«Тяжело, дорогая Катерина Павловна, очень тяжело. Все последнее время какие-то камни ворочаются в груди, на том месте, где надлежит быть сердцу. И некому поведать печаль мою. Мне суждена доля Кассандры. Вокруг только кровь, безысходное горе, развал и крушение всех национальных идеалов, но не видно избавления, не видно спасения... Гаснет вера в свой народ, в его вечное предназначение, и тьма охватывает сознание. Вокруг свирепствует слепой хаос — и нет творческого союза, нет того животворящего духа, мощного и властного, который бы разбушева[illegible]ся слепую стихию направил бы в [illegible] порядка и гармонии...

Где тот вождь и пророк? Пока нет его. Керенский? Но что он может сделать один, усталый и больной, с испепеленным сердцем, он, который явно не знает, что основная стихия массы русского [illegible]ода — анархизм, распад на отдел[illegible] ячейки. Что он может сделать, когда даже в своей собственной партии он не собрал большинства? И в самой партии, которой видимо суждено играть второстепенную роль, еще вопрос — не больше ли элементов распада и разложения, нежели творчества и созидания?

Несомненно, что в отношении армии и рабочих элементов распад и разложение действуют с гораздо большей силой, чем элементы связи, подчинения и объединения. Взваливать всю вину на большевиков за создавшуюся анархию и развал несправедливо. Вообще, нельзя было трогать дисциплину... Мы слышали про железную революционную дисциплину, но что-то не видим ее применения, ее действия. Очевидно, что разрушить старое было легче, чем созидать новое.

И вот наша армия бежит из-под Мукдена. И вот в Россию врагу открываются широкие ворота. Мы имели беженцев с протянутыми руками, скоро будем залиты потоками беженцев со штыками в руках. Гибнет работа многих прошлых поколений... начинай сначала... Ясно, что мы на многие годы обречены на судьбу нации, не выполняющей своего призвания.

Читал, что Вы попали в гласные М. Г. Д. (Маскоўскую Гарадскую Думу, — **Л. З.**), не особенно Вас поздравляю и Вашу партию. Я думаю, что ваши товарищи не столько радуются победе, сколько трепещут под тяжестью свалившегося на них дела и огромной ответственности...».

Як вядома, Максім уладкаваўся ў Ялце не вельмі добра. Цяжка было з ядою. Акрамя таго, увесь час трымалася высокая тэмпература. Ён бясконца кашляў, схуднеў. Максім хадзіў у бібліятэку, падоўгу сядзеў у чытальні, браў кнігі на кватэру. Увесь час неаслабна сачыў за грамадскім жыццём, настойліва працаваў над беларускім букваром. Ён, як і яго бацька, не верыў у Керанскага і [illegible]зат напісаў у адным з лістоў [illegible]б-роў: «Смешна спадзявацца, што якія б там ні былі Керанскія прынясуць вызваленне прыгнечаным масам Беларусі. Толькі самі працоўныя змогуць дабіцца свайго вызвалення».

Пра смерць Максіма бацька даведаўся не адразу. Гаспадыня кв[illegible]ы, не знайшоўшы сімферопальска[illegible]дрэсу Адама Ягоравіча, тэлеграфавала ў Яраслаўль. Пакуль адтуль паведамілі ў Сімферопаль, ішоў ужо чацвёрты дзень, як памёр Максім. Даведаўшыся пра смерць сына, бацька адразу памчаў на аўтамабілі ў Ялту.

На магіле сына Адам Ягоравіч знайшоў сціплы драўляны крыж з бляшанаю таблічкаю, на якой было напісана: «Студент Максим Адамович Богданович».

Напісаць чарговы ліст Льву і не паведаміць пра смерць брата — Адам Ягоравіч не адважыўся. І, як бы апраўдваючыся, што амаль за тры месяцы не знайшоў часу выбрацца да хворага Максіма, ён піша:

«Мой милый сынок. Нас постиг новый удар: Максим скончался в ночь на 14 мая в Ялте. Кровотечение из горла. Он ничего мне не писал о своём здоровье, оказалось, что в последнее время он чувствовал плохо... Умер совсем одиноко, и похоронили его без меня. Все горе да горе. Теперь ты остался один от матери. Тяжело мне, сынок, все как-то рушится, а я должен стоять и бороться, чтобы не ослабеть в борьбе, не потерять равновесия и смысл в жизни... 21 мая 1917».

У заключэнне хочацца сказаць, што мною ў Архіве Максіма Горкага выяўлена цікавая ненадрукаваная перапіска Адама Ягоравіча з вялікім пралетарскім пісьменнікам і з К. Пешкавай, дзе часта ўспамінаецца светлае імя Максіма-кніжніка і якую я маю намер неўзабаве апублікаваць.

**Л. ЗУБАРАЎ.**

## НА КАРЦІНАХ—ГЕРОІ 1812 ГОДА

Багатая калекцыя твораў выяўленчага мастацтва, прысвечаных вайне 1812 года, захоўваецца ў Дзяржаўным ордэна Леніна Гістарычным музеі ў Маскве. Да 175-й гадавіны перамогі над французамі ў Магілёве, на беларускай зямлі, дзе адбываліся многія буйныя падзеі таго часу, адкрылася выстаўка, на якой экспануюцца гравюры і літаграфіі з фондаў аддзела выяўленчых матэрыялаў гэтага музея. Яны выкананы ў першай палавіне XIX стагоддзя.

Шырока адлюстроўвае народны характар вайны палітычная графіка, выкананая ў 1812—1815 гадах І. Церабеневым — скульптарам, аўтарам ляпных і скульптурных упрыгажэнняў на будынках Адміралцейства і Эрмітажа ў Пецярбургу, мастакамі А. Венецыянавым, С. Шыфлярам, М. Багучаравым, Н. Грэчам.

Удзельнік паходу ў Расію ў саставе напалеонаўскай арміі турынскі мастак Д. Бакецi зрабіў эскіз пераправы французаў, па якому ў Пецярбургу ён жа награвіраваў ліст «Пераход праз Нёман 12(24) чэрвеня 1812 г.».

Гравюры і літаграфіі, прадстаўленыя на выстаўцы, маштабна і адначасова захапляюча расказваюць мовай мастацтва пра гістарычную падзею.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### МАК ЦЁРТЫ

**Мак прамыць, апарыць, працадзіць праз густое сіта або марлю, растаўчы ў ступцы да выдзялення макавага малачка. Дабавіць цукар ці мёд, кіпячоную ваду і перамяшаць. Падаць з блінамі або аладкамі.**

**120—140 грамаў маку, 2 сталовыя лыжкі цукру.**

### САЛА З ЧАСНАКОМ

**Сялянскае сала нашпігаваць часнаком і вытрымаць у халаднаватым цёмным месцы на працягу сутак. Гатовае сала нарэзаць на тонкія лустачкі і падаць з жытнім хлебам да зваранай у лупінах бульбы.**

**300 грамаў сала, 4 долькі часнаку.**

### КРУПЕНЯ

**У мясны булён дабавіць ячную крупу, а затым бульбу. Зваранае мяса выняць і прапусціць праз мясарубку, а бульбу і крупы перамяшаць і працерці праз сіта. Усё перамяшаць з булёнам да пюрэпадобнай кансістэнцыі і давесці да кіпення, дабавіць масла, перац ці кмен. Заправіць падсмажаным свежым салам з дробна нарэзанымі кавалачкамі рэпчатай цыбулі.**

**1,5 літра вады, 300—400 грамаў мяса, 3—5 бульбін, 6—8 сталовых лыжак круп, 60—80 грамаў сала, 2 цыбуліны, 60—80 грамаў масла або 0,5 шклянкі смятанкі, кмен, перац, соль.**

### ГАРБУЗ З БУЛЬБАЙ

**Ачышчаны ад лупін і насення гарбуз прамыць, нарэзаць на кавалкі і адварыць у невялікай колькасці вады. Гатовы гарбуз працерці і змяшаць з бульбяным пюрэ. Дабавіць малако або смятану, пасаліць і паварыць. Замест бульбянога пюрэ можна выкарыстаць рысавую кашу, маркоўнае пюрэ, цёрты мак. Гатовую страву падаць з малаком.**

**300 грамаў гарбуза, 3 сталовыя лыжкі бульбянога пюрэ, 0,5 шклянкі малака або 2—3 сталовыя лыжкі смятаны, соль.**

## *СПЯВАЮЦЬ «ПРАЛЕСКІ»*

Народны вакальны ансамбль «Пралескі» Гомельскага педагагічнага вучылішча вярнуўся з ГДР. Самадзейныя артысты выступалі ў канцэртах фестывалю дружбы моладзі ГДР і СССР.

Гэта не першая зарубежная паездка калектыву. Раней ён пазнаёміў са сваім мастацтвам паклоннікаў народнай творчасці ў Польшчы і Чэхаславакіі.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80; 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1357